# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

*№ 19 (33)* *2—8 ліпеня 1993 г.* *Кошт 5 рублёў*


**БЕЛАРУСЫ ЎКРАІНСКАГА ПАЛЕСЬСЯ.** Апавядае былая пінская шляхцянка.

Урадавыя хітрыкі або **САКРЭТ ПОЛІШЫНЭЛЯ.**

Праз **НЯМЕЦКУЮ МЯЖУ** у рыбацкім чоўне.

**У ШВЭЦЫІ ГЛЯДЗЯЦЬ МЕНСКІЯ СЭСІІ** й пасьміхаюцца...

## Размова пра талерантнасьць

У Менску ў днях 25—26 чэрвеня адбылася канфэрэнцыя «Талерантнасьць й грамадзкія адносіны». Яе наладзіў Беларускі фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л. Сапегі пры ўдзеле бюро па правах чалавека, навукова-адукацыйнага цэнтра імя Фр. Скарыны, фонда Сорас-Беларусь. Працавала канфэрэнцыя ў гатэлі для замежных турыстаў «Юбілейны». Нататкі пра яе працу мы зьмесьцім у наступным нумары газэты, а сёньня прапануем выступленьне аднаго з удзельнікаў, сп. Ю. Вашкевіча. Чытайце яго на 5-й старонцы.

**С. А.**

## Ксяндзы ў бальніцы

Анкалягічнае аддзяленьне ваблаcной бальніцы ад нядаўняга часу наведваюць ксяндзы Фарнага касьцёлу. Адзін з іх прыходзіць у кожную нядзелю а 17-й гадзіне й застаецца да позьняга вечару. Спачатку служыць набажэнства, на якое зьбіраецца па 150—160 хворых, затым спавядае, а потым абыходзіць пакоі з цяжка хворымі. Па споведзь зьвяртаюцца нават праваслаўныя. Апякуюцца хворымі сёстры-назарэтанкі.

**(спадар).**

## Чацьвёртая Рэч Паспалітая?

У часе наведваньня Менску прэзідэнт Рэспублікі Польшча Лех Валэнса сказаў, што Беларусь прыгожая краіна, трэба толькі нейк зрабіць, каб яе людзі мелі больш грошай. Палякі, як і самі беларусы, зацікаўлены, каб нашая дзяржава была сувэрэннай ды нэйтральнай. Л. Валэнса таксама сказаў, што ў 2000-м годзе паміж Польшчай ды Беларусьсю не павінна быць аніякіх межаў, трэба адно глядзець за кантрабандай наркотыкаў ды радыёактыўных рэчываў.

Пабачым, ці спраўдзіцца пажаданьне спадара прэзідэнта, але ўжо сёньня відавочна, што лепей ня мець мяжы з палякамі, чым з усходнім суседам.

**(спадар).**



У Навагрудку напярэдадні прыезда прэзідэнта Польшчы Леха Валэнсы паклалі новы асфальт. Спадар прэзідэнт наведаў Музэй Адама Міцкевіча.

## Дом урада стане прыгажэйшым

Пад зямлёй у сталічным мэтро сьцены адной са станцый аздоблены адразу некалькімі мэталічнымі надпісамі «Плошча Леніна». Зьверху аднак даўно знаходзіцца плошча Незалежнасьці, а на ёй шэры Дом ураду аўтарства архітэктара Лянгбарда. Дык вось, гэты вялікі дом фарбуюць адмысловай фінскай белай фарбай. Каштаваць гэта будзе нятанна. Але самае прыкрае, што на белым тле надта чорна стаў выглядаць бронзавы Ленін. Менчукі гадаюць: ці будуць маляваць таксама статую, каб хоць крыху адбяліць яе дзеля гісторыі, ці з 'эканоміць на ёй дарагую фарбу?

**М. ПЯТРОВІЧ.**

1 ліпеня ў Горадні адбылася перадача Базыльянскага кляштара (былы Музэй гісторыі рэлігіі) праваслаўнай царкве й урачыстае набажэнства.

Вуніяцкая суполка Горадні наладзіла пікэтаваньне ля храма, які ў 1720 годзе быў пабудаваны грэкакатолікамі. «Парушылі запавет Хрыста «Не ўкрадзі», «Даруй ім, Божа, дапамажы нам»,— такія транспаранты былі ў руках пікэтоўшчыкаў. Адзін з прадстаўнікоў праваахоўных органаў мабыць выпадкова разарваў плякат, на якім было напісана «Дай ім Бог пакаяньне дзеля прызнаньня праўды».

# Чэслаў Мілаш не прыехаў

Урачыстае адкрыцьцё «Рыма-IV» у тэатры Тызэнгаўза, сёньня лялечным, пачалося з канфузу. Адзін з выступоўцаў назваў нашу краіну «Беларускай эсэсэр». Зрэшты, гэта крыху разварушыла прысутных, бо перад тым наша гарадзкая капэла выканала тры рэлігійныя гімны даволі мінорнага гучаньня.

З першых асобаў прысутнічалі толькі старшыня аблвыканкаму сп. Д. Арцыменя, які дзеля гэтага на два дні раней вярнуўся з Амэрыкі, і старшыня гарсавету сп. С. Домаш. Старшыня парлямэнцкай камісіі сп. Н. Гілевіч адсутнічаў з прычыны прыезду ў Менск прэзідэнта Валэнсы, не было таму ж і міністра замежных справаў сп. П. Краўчанкі. Міністр адукацыі тэрмінова выехаў у Люксэмбург, адсутнічаў таксама й міністр культуры. Ад іхняга імя зачытваліся прывітаньні.

Шкада, што не прыехаў і Чэслаў Мілаш. А мог бы. Пэрыядычна ён прыяжджае са Штатаў ў Кракаў разам з І. Бродзкім. Былі яны тамака й напярэдадні «Рыма-IV». Прысутнасьць двух ляўрэатаў Нобэльскай прэміі па літаратуры магла б вельмі аздобіць гарадзенскае спатканьне.

У рамках «Рыма-IV» у Гарадзенскім унівэрсітэце імя Янкі Купалы было заплянавана паседжаньне вучонага савету, прысьвечанае наданьню годнасьці ганаровага доктара гэтага унівэрсітэта спадарству Яраславу Ісаевічу, Вітаўту Кіпелю, Ежы Клачоўскаму, Вітаўтасу Мяркісу. Гэтая падзея адбылася ў нашай Альма матэр упершыню.

Тэма памежжа прагучала на канфэрэнцыі вельмі надзённа. Нездарма ж Т. Канвіцкі гаварыў, што «крэсы» тояць у сабе небясьпеку новага Карабаху. Наша задача — грунтуючыся на сваім гістарычным досьведзе, стварыць для Эўропы прыклад супольнага жыцьця некалькіх народаў.

**На здымку: амэрыканскія беларусы — удзельнікі «Рыма-IV»: В. Кіпель, яго дачка Алеся й жонка З. Кіпель, Я. Запруднік.**

**А. С.**

**Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.**

**Постскрыптум.** У папярэднім нумары «Пагоні» у паведамленьні аб маючай адбыцца канфэрэнцыі выдрукавана прыкрая памылка. Замест «у храмах» у тэксьце атрымалася «у крамах». Перапрашаем усіх нашых чытачоў. Як калісьці казаў І. Джугашвілі або нехта іншы, «газэта ёсьць газэта».



# Падземны мітынг

Калі на рэдакцыю паступіла паштовае запрашэньне прыехаць на ўрачысты сход з нагоды 50-годдзя Саюза Беларускай Моладзі, я амаль ня даў веры вачам. Краіна бо ў нас савецкая й беларускія даты ў ёй не ў пашане. У суботу 26-га чэрвеня, у дзень правядзеньня Сходу, я разгарнуў «Зьвязду» й ужо мусіў паверыць: спадар Кебіч забараніў урачыстасьць па шматлікіх просьбах працоўных. Ён таксама абвясьціў «недапушчальнасьць якіх-небудзь мерапрыемстваў, зьвязаных з так званым юбілеем СБМ». Вось табе й маеш! Аказваецца, у нашай нэндзе «вінаваты» ня толькі БНФ, але яшчэ й злашчасны СБМ! Наш урад пераняў правілы ЦК КПБ вельмі дакладна растаўляць ідэялагічныя акцэнты. А як жа спрытна, па цэкоўскай звычцы, у патрэбным месцы у тэксьце ўстаўлена «з так званым»...

На прызначаны час, каля 18-ці гадзін, побач Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы, дзе мела адбыцца ўрачыстасьць, сабралася колькі дзесяткаў чалавек, пераважна моладзі, а таксама тры сяржанты ды тры лейтэнанты са сталічнай міліцыі. Зразумела, што ўсім давялося «пацалаваць клямку»: груваcткія высокія дзьверы былі глуха замкнёныя. Тут жа было й некалькі чалавек з камсамольскімі значкамі, яны спрабавалі раздаваць свае ўлётачкі, у якіх «фашисты», «фашистские, фашиствующие»... Люд пачытваў ды пасьмейваўся.

Без адной хвіліны 18 пайшоў дождж, прычым вельмі спорны. У каго не было парасонаў, тыя ўсталі ў нішы вокнаў тэатра. Міліцыі давялося змокнуць. Я таксама стаяў у вакновай нішы, перад маімі вачыма на сьцяне вісела мэмарыяльная шыльда: тут выступаў тав. Сьвярдлоў, а таксама адбыўся ў 1917 годзе зьезд салдат,

**(Працяг на 2-й стар.).**





# ПАЛІТЫКА. ГАСПАДАРКА

## «Гаворыць радыёстанцыя пана Кавальскага!»

Некалькі гадоў таму ў Польшчы пачалі ўзьнікаць прыватныя тэле- ды радыёстанцыі. Дзейнічаюць яны самадзейна, бо па сёньняшні дзень яшчэ не прыняты закон аб радыё- й тэлевяшчаньні. Сёньня вяшчаюць 500—600 прыватных радыёстанцый, на якіх працуе 5 тысяч журналістаў. Яны маюць аўдыторыю ў 10 млн. слухачоў.

Мяркуюць, што пасьля прыняцьця адпаведнага закону, у Польшчы будуць існаваць і агульнапольскі прыватны тэлеканал, і 87 мясцовых тэлестанцый. Але ж гэтыя палякі! Мы й дагэтуль нават аднаго прыстойнага тэлеканала ня маем.

**Р. МЕНДЖЫБОЎСКІ.**

## Вуніятам адмовілі

14 чэрвеня народны суд Горадні пад старшынствам суддзі З. Нікольскай вызначыў: не прыняць заяву грэка-каталіцкай суполкі. Нагадаем, што вуніяты дамагаюцца адмены рашэньняў аблвыканкама № 70 і № 98 аб перадачы вуніяцкага Базыльянскага кляштара праваслаўнай эпархіі. Перад тым як адмовіць, заяву трымалі ў судзе паўтары месяцы.

Рашэньне Ленінскага суда можна было абскардзіць на працягу 10-ці дзён. Можна было, але. Адмоўнае рашэньне было прынята 14-га чэрвеня, выслана яно было 22 а атрымана адрасатам якраз 24-га чэрвеня. Такім чынам, тэрмін абскаржаньня скончыўся нібы сам сабой.

**Ю. М.**

Спраўдзілася наступнае з навагодніх прадказаньняў «Пагоні». Мітрапаліт Філярэт нарэшце загаварыў пабеларуску. Здарылася гэта ў сталічнай філярмоніі пад час сьвяткаваньня 200-х угодкаў Менскай эпархіі.

**(бн).**

# Падземны мітынг

(Пачатак на 1-й стар.).

які вітаў савецкую ўладу. Пра Усебеларускія кангрэсы (першы з іх разагнаны той самай савецкай уладай), якія памятае гэтая камяніца,— акт слова. У савецкай краіне беларускія даты не ў пашане! А каля дзьвярэй тэатра ў рэпэртуарным пописе «Тутэйшыя» Я. Купалы... Як жыцьцё часам нагадвае спэктакль. А побач мок гмах Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, раней цэкоўскі.

Усе спусьціліся ў зеўру мэтро, балазе ўваход быў насупраць тэатра. Дзяржаўны сьцяг, другі — з чырвоным крыжам — грунвальдзкі, тры транспаранты: «Ганьба ўраду», «Не — фальсіфікацыі гісторыі», «Не — фашызму (чорнай фарбай) і камунізму (чырвонай)». Вось тамака, пад зямлёй, і адбыўся мітынг, прысьвечаны СБМ. Дзяржаўнай мудрасьці хапіла на тое, каб ня даць загад міліцыянтам разагнаць мітынгоўшчыкаў. Але ўсё адно разам з угодкамі «гістарычнай» забароне наканавана застацца ў гісторыі.

Напачатку выступала моладзь. Спрабавалі акрэсьліць пачаткі СБМ. Такая арганізацыя існавала ў Заходняй ды Усходняй Беларусі падпольна ў 1921 годзе. Магу дадаць: ужо некалькі год, як СБМ легальна адноўлены на Беласточчыне. У 1943 годзе быў створаны Саюз Беларускай Моладзі, у які прымалі школьнікаў ад 10-ці год. Гэта была нацыянальная патрыятычная арганізацыя. Што ж датычыць таго, што створана яна была пад нямецкай акупацыяй, дык варта задумацца: а ці магла яна існаваць пад Саветамі?

А затым гаварылі самі эсбээмаўцы. Спадарства Віктар Сікора (Паставы), Рыгор Клімовіч (аўтар песьні нарыльскіх паўстанцаў), Захарцэвіч, Янка Жамойцін (Варшава), Вера Катковіч, Генадзь Пяткевіч (Стоўбцы), Аляксандра Фурс. Усіх я не пасьпеў занатаваць. Яны гаварылі пра тое, што найвышэйшай мэтай для іх была незалежная Беларуская дзяржава пад Пагоняй і Бел-чырвона-белым сьцягам. Апавядалі, як беларусы трымаліся ў Гулагу разам, як шмат іх загінула ў нарыльскім паўстаньні. Успаміналі, як у лагеры спрыялі нябожчыку Пятру Бітэлю, каб ён перакладаў на беларускую мову творы Адама Міцкевіча. Спадар Жамойцін растлумачыў, што адміністратыўныя пасады на Беларусі пад немцамі на ўсходзе апанавалі расейцы, а на захадзе — палякі. Моладзь рыхтавалася да працы ў беларускай адміністрацыі.

Сымвалічна, што сп-ня Фурс у 1945 годзе пасьля ўступленьня ў Саюз Беларускіх Патрыётаў у Пастаўскай мэдвучэльні атрымала 25 год Гулагу за тое, што намалявала Пагоню.

Іх усіх катавалі за беларушчыну, але пра гэта яны апавядалі скупа.

Мітынг цягнуўся паўтары гадзіны. Калі ўсе выйшлі са сьцюдзёнага падзем 'я на волю, дождж скончыўся, й нават выбліснула сонца. У міліцэйскай рацыі мэталічны голас перадаваў: «Строятся в колонны, идут на кладбище». Пасьля гэтага лейтэнант мовіў у мэгафон: «Граждане, прошу освободить проезжую часть!»

20 сяброў СБМ сталі перад уваходам у Купалаўскі тэатр, каб сфатаграфавацца. Я баяўся ўбачыць зламаных, нэрвовых, неўраўнаважаных людзей. Іхнія твары былі іншымі: мудрымі, добразычлівымі, прыгожымі. У руках жанчын былі кветкі.

Калёнаў не было. Яны накіраваліся ў мэтро на вайсковыя могілкі, каб пашукаць зруйнаваную ў 1945-ым годзе магілу, у якой пахавалі дзяўчат з СБМ, забітых у гэтым самым Купалаўскім тэатры падпольшчыцкай мінай

Пакуль наша дзяржава застаецца савецкай, усё беларускае будзе мець характар дэкарацый. Канфлікт гэты яскрава адлюстроўвае супрацьстаяньне беларускага й савецкага. Адны змагаліся за сталінскую краіну, другі — за вольную Беларусь. Пакуль першыя дыктуюць свае ўмовы. Дастойны сябе «падарунак» зрабіў наш урад Форуму беларусаў сьвету. Як адзначалася на мітынгу, менавіта моладзь з СБМ тварыла ў эміграцыі жыцьцё.

Нават калі непрывабную маску хаваюць у кішэню, яна ўсё адно праступае на твары...

«Дык ці ў шчасьця дзень пагодны,  
Ці ў буры дні благім  
Знайма першы кліч народны:  
Беларусь перадусім!»

**(З гімна СБМ).**

**С. А.**



Гарадзенскія крышнаіты. Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.

# Урадавыя хітрыкі або Сакрэт полішынэля

Зусім нядаўна газэты, што пад кантролем Савета Міністраў Беларусі, любілі друкаваць допісы, дзе гаварылася, як добра жывуць грамадзяне рэспублікі ў параўнаньні з далёкім і блізкім замежжам. Абавязкова прыводзіліся лічбы: кошт прадуктаў харчаваньня ў нас і «ў іх». Падкрэсьлівалася разумная палітыка беларускага ўраду, ягоная нясьпешлівая хада да рынкавых адносінаў, асьцярожнасьць у рэфармаваньні эканомікі.

Сёньня ад былога антузіязму застаўся пшык. Дзяржкамстат Рэспублікі Беларусь у траўні гэтага года прызнаў, што ў першым квартале не ўдалося перааделець спад вытворчасьці (гл. «Зьвязду» ад 15.05.1993 г.) Прывычна пералічаліся й складаныя негатыўнага працэсу: парушэньне гаспадарчых сувязяў, зрывы паставак многіх відаў сыравіны, матэрыялаў і камплектуючых, нясвоечасовыя разьлікі са спажыўцамі, рост цэнаў на паліўна-энэргэтычныя рэсурсы...

Канешне, цікава параўнаць кошт ялавічыны, масла, малака, сыру, яек, цукру ў розных краінах СНД. Атрымліваецца, што ў цэлым рэспубліка жыве нават лепш, чым іншыя. Гэта, зразумела, на паперы, якая ўсё вытрымае. А на практыцы? На практыцы абвал эканомікі ў апошні час набыў небясьпечны характар. На сэсіі Вярхоўнага Савета многія дэпутаты ставілі пытаньне рубам — калі не прыняць адпаведных мераў, бяды не пазьбегнуць.

Ва ўзгаданым артыкуле-зводцы ўказваецца, што прыкметы надыходзячага крызісу былі заўважаны яшчэ ў прыканцы 80-х. Нават урадам і тым жа Вярхоўным Саветам прымаліся захады, каб прадухіліць абвальны спад вытворчасьці й зьніжэньне ўзроўню жыцьця людзей. Памятаецца, у дзяцінстве, пасьля добрага летняга дажджу мы любілі будаваць усялякія дамбы, каб стрымаць націск вады. Аднак струмяні неўзабаве знаходзілі сабе шлях, разбуралі наіўныя збудаваньні. Вось так, на маю думку, паводзілі сябе й разумныя дзядзькі з Савета Міністраў. Замест пошуку магчымасьцяў Беларусі безбалесна распачаць пераход да рынку, усяляк тармазілі хаду, разводзілі бадзягу, і пры гэтым пераконвалі сябе й сьвет — мы ідзем у правільным напрамку.

Слоў было многа, а справы мала. Таму на цяперашняй сэсіі паспрабавалі знайсьці крайняга — старшыню нацыянальнага банку Беларусі Станіслава Багданкевіча. Маўляў, ня так выконваў рашэньні Вярхоўнага Савету і ўраду, прывёў да краху крэдытна-фінансавую сістэму.

Як бачым, ні заканадаўчая, ні выканаўчая галіны ўлады не бяруць на сябе сьмеласьць прызнаць за сабой памылкі стратэгічнага й тактычнага характару. І ўсё ж шчыльна займацца эканомікай прызваны Савет Міністраў. Вярхоўны Савет дэлегаваў яму такое права, прызначыў на пасады міністраў, старшыню, іншых дзяржаўных кіраўнікоў. Аднак ці могуць гэтыя шаноўныя спадары, якія яшчэ ўчора рашуча адвяргалі рынак, згодна вучэньню Маркса, сёньня перайначыць сябе, выкінуць з галавы разьмеркавальны сацыялізм і распачаць справу па-новаму?..

Выклікае пэўную цікавасьць выказваньне першага намесьніка Старшыні Савета Міністраў Беларусі Міхаіла Мясьніковіча. Разумна казаў урадовец, падкрэсьліваючы, што ўрад мае сваю праграму й што пытаньне — у рэалізацыі. Год з гакам назад ён жа ў газэце «Рэспубліка» (гл. нумар ад 3 сакавіка 1992 г.) таксама спасылаўся на праграму, нават свой артыкул назваў «Ва ўрада ёсьць свая праграма. Пытаньне ў рэалізацыі...» Разумна заўважыў: ва ўмовах валадараньня манаполій перайсьці да рынку — абсурд.

І тут жа выклаў сваё бачаньне выхаду са становішча, якое склалася (яшчэ год назад! — В. З.). Напрыклад, адвеў 3—5 гадоў для інтэграцыі ў сусьветную эканоміку пры ўмове палітычнай стабільнасьці. Кардынальная перабудова ўласнай эканомікі, найперш прадпрыемстваў ваеннапрамысловага комплексу. Скарачэньне матэрыяла- і энэргаёмістасьці нацыянальнага прадукту. Пошук новых партнёраў у сьвеце з мэтай набыцьця энэргарэсурсаў. Зьніжэньне некаторых відаў падаткаў. Перагляд цэнавай палітыкі, якая прымусіць іншых гаспадарнікаў павышаць рэнтабельнасьць прадукцыі, а ня жыць, рабуючы спажыўцоў — штомесяц падвышаючы кошт тавараў.

Ну, выдатныя ж задумы! І выказаныя чалавекам, што мае ўладу й магчымасьці рухаць эканоміку рэспублікі ў абраным кірунку. Праўда, засмучалі некалькі лічбаў, таксама прыведзеных у артыкуле. Зьнешні доўг Беларусі складаў 4,13 працэнта ад агульнай запазычанасьці былога СССР. У той жа час Расея «тармазнула» вяртаньне рэспубліцы 600 млн. інвалютных рублёў. Лёс 240 тон золата — долі Беларусі ў залатым запасе былога Савецкага Саюза — дагэтуль ня вырашаны.

Нам, недасьведчаным, можна прабачыць нейкую памылку местачковага ўзроўню. Але калі Савет Міністраў не зрэагаваў (ці не захацеў?) на відавочнае пагаршэньне сітуацыі, якая паступова складвалася вакол рэспублікі — тут ужо меркі іншыя. Замест рашучасьці ў адстой-





# СУМЕЖЖА

## «Прыйдзе той час — да сваіх я вярнуся...»

Гэтыя радкі я ўзяў з верша беларускага паэта, публіцыста й выдаўца У. Казлоўскага. Час той, відаць, да нас ужо прыйшоў, каб вярнуць з забыцьця яшчэ адно адмыслова забытае прозьвішча.

Часопіс «Новы шлях» у сьнежні 1943 года пісаў: «22 лістапада 1943 года ў Менску на Кальварыі пахаваны адказны рэдактар «Беларускай газэты» Уладыслаў Казлоўскі. Ён стаўся чарадной ахвярай бандыцкага тэрору на Беларусі й загінуў як жаўнер пры спаўненьні сваіх абавязкаў...»

Сапраўды, размова ідзе пра беларускага літаратара Уладыслава Казлоўшчыка (сапраўднае прозьвішча — Казлоўскі). Нарадзіўся ён у 1896 годзе ў сялянскай сям'і ў вёсцы Залесьсе на Гарадзеншчыне. Пачатковую й сярэднюю адукацыю Ул. Казлоўшчык набыў у Саколцы (Беласточчына) і ў Горадні.

У 1916 годзе паступае ў Віленскую каталіцкую духоўную сэмінарыю, дзе прапагандуе беларускую сьвядомасьць. Пазьней ён запісваецца на кароткачасовыя беларускія настаўніцкія курсы пры Цэнтральнай Радзе Віленшчыны й Гарадзеншчыны, пасьля заканчэньня якіх накіроўваецца ў Сакольскі павет, дзе прымае ўдзел у арганізацыі беларускіх школаў.

У 1919 годзе Уладыслаў Казлоўшчык прыяжджае ў Менск, а ў 1920 — працуе ўжо ў Ігумэнскім павеце інструктарам беларускага нацыянальнага камітэту па пытаньнях арганізацыі тут нацыянальнага й каапэратыўнага жыцьця.

З 1921-га года служыць у радах Войска Польскага, але не парывае сувязяў з беларускім нацыянальным рухам.

У 1930-м годзе Уладыслаў Казлоўшчык у раньзе паручніка звальняецца са службы й прыяжджае ў Вільню. Тут ён арганізоўвае гімнастычнае таварыства «Гайсак», піша пра спорт. З друку выходзяць яго кнігі «Фізычнае выхаваньне грамадзянства» (1927) і «Аб фізічным выхаваньні ў беларусаў» (1920). Таксама выдаюцца й літаратурныя працы «Беларускія народныя песьні з Сакольскага павету» (1930), «Плач Беларускай старонкі-маткі па дзетках сваіх рэнэгатах» (1930), вершаваны раман «Путы каханьня» (1932) і зборнік паэзіі «Шлях змаганьня» (1935).

У 1933 годзе Уладыслаў Казлоўшчык становіцца выдаўцом і рэдактарам штотыднёвіка «Новы Шлях». А ў гады вайны ў акупіраваным немцамі Менску рэдагуе «Беларускую газэту»...

Чытачам «Пагоні» прапаную два вершы Уладыслава Казлоўшчыка, якія напісаны ў першай палове 30-х гадоў.

**С. ЧЫГРЫН,**
**г. Слонім.**

**Уладыслаў КАЗЛОЎШЧЫК**

**БУДЗЕШ НЕЗАЛЕЖНАЙ**

Няшчасныя дзеі Цябе гартавалі
І сілу давалі ў нядолі бязьмежнай—
Ты мусіш паўстаці мацнейшай ад сталі
І быць незалежнай.
Хаця б Цябе пекла ўсе сілы тапталі,
Трымалі ў няволі рукою жалезнай—
Ты мусіш паўстаці мацнейшай ад сталі
І быць незалежнай.
Раней ці пазьней Ты зьбярэш свае роты
І пойдзеш у бой аканчальны, вызвольны.
Тады сьвет пачуе маланкі-грымоты
З пярунаў, што пусьціць народ паднявольны;
І злыдняўску страшну пачуе сьвет зьвягу,
І зьдзіўлена ўбачыць працоўных адвагу,
Што сьцяг свой крывавы адважна паднялі
І пліту нядолі звалілі жалезну.
Тады Ты паўстанеш мацнейшай ад сталі,
Каб быць незалежнай!

**ПАГОНЯ**

Ляціць Крывіцкая Пагоня
Праз горы, рэкі і лясы,
Праз мора, акіяны, нават
На хмары пнецца ў небясы.
А гэта слаўнае Пагоні
Ніхто ня можа супыніць,
Бо дух Крывіцкага ваякі
З мячом агністым там сядзіць.
І гэты меч падняў высока,
Прыцісную шпорамі каня
І дзесьці прэцца ён далёка,
Аж стогне й енчыць уся зямля.
Куды ж сьпяшыць Пагоня наша?
Каго дух-рыцар хоча біць?
Над кім памсьціцца хоча строга,
Што так імчыць, аж не спыніць?
Маскаль, ці Лях яго угнявіў,
Татарын скрыўдзіў ці крыжак,
Грунвальдзкую пабеду можа
Прыпомніў ён і гоніць так?
О, не, працоўны ты мой дружа,
Ня тым наш рыцар заняты:
Імчыцца ён у край пакутны,
Там, дзе жывуць яго браты.
Сьпяшыць Крывіцкі рыцар з неба
У старонку, скованую ў ланцуг,
Распутаць хоча ён Пагоню,
У жывых братох — збудзіць там дух.

## Беларусы ўкраінскага Палесься

Памятаю, у дзяцінстве на торжышчах Пінска сустракаў багата машын з украінскімі нумарамі. Калі пытаў тату, чаму украінскія людзі едуць да нас, чуў у адказ: гэта ж нашы людзі. Яны едуць сюды ня толькі гандляваць, але й сустрэцца з роднымі, пагаманіць, пагасьцяваць.

Скажу шчыра, мяне малога вельмі зьдзіўляла тое, што ўкраінцы ня едуць да сябе ў Кіеў ці Роўна шукаць сваякоў, а наадварот, находзяць іх на Беларусі.

Калі падрос, любіў слухаць апавяды аднавяскоўцаў аб тым, што ў іх засталіся браты ці сёстры на Валыншчыне ці Ровеншчыне. Звычайна гэта былі ўспаміны, якія тычыліся пасьляваеннага часу. Аднавяскоўцы ўспаміналі, як цяжка й складана жылося родным на Украіне. Іх бязьлітасна нішчылі бандэраўцы, асабліва пакутавалі тыя, хто па веравызнаньні быў каталіком.

Ня вельмі шэньціла й праваслаўным, асабліва калі на тэрыторыі Заходняй Украіны пачалі зьяўляцца вайсковыя фарміраваньні бандэраўцаў.

Успамінае жыхарка ўкраінскага горада Любяшова Алена Дзікавіцкая.

Наш асяродак шляхты займаў добры кавалак Палесься. Ад Пінска ён цягнуўся ў глыбкі краю аж да Луцка. Землі належылі шляхце, й яна тут гаспадарыла на працягу стагоддзяў.

Мой бацька яшчэ за польскім часам купіў у пана непадалёк Любяшова маёнтак Дзеравок. Сям'я пераехала туды ў 1934 годзе. Месца было цудоўнае: возера, дуброва, луг, які кожную вясну заліваўся вадой. Мы, дзеці, ахвотна гулялі па гэтых цудоўных мясьцінах. Калі выбухнула вайна, усё перамянілася. Аднекуль зьявіліся ўзброеныя банды, якія пачалі рабаваць гаспадаркі беларусаў, габрэяў, палякаў. Каб бараніць сям'ю ад гэнацыду, бацькі пераехалі зноўку да Любяшова. Сюды ж пачалі зьяжджацца й іншыя сем'і, якія расказвалі жудасныя гісторыі пра зьдзекі ўзброеных бандытаў над усімі, хто ня быў украінцам. З кожным днём прыходзілі ўсё больш жахлівыя чуткі. Пра жанчын, якім адрэзалі грудзі, пра дзяцей, якіх падкідвалі ўверх і лавілі на багнэты. Памятаю добра, што нават немцы, якія напачатку падтрымлівалі амбіцыі ўкраінцаў, пацiскалі плячыма.

Неяк ноччу да нас пастукалі. Бацька адчыніў, гэта быў наш сусед па маёнтку спадар Навак. Яго доўга катавалі бандыты, а потым зусім голага пусьцілі, маўляў, усё роўна загіне на марозе. Але спадар Навак вытрымаў і змог дайсьці да нашае хаты. Мы яго абагрэлі, накармілі, далі вопратку. Далейшы лёс суседа мне невядомы.

І пасьля вайны жыць было цяжка. Бацькі спадзяваліся, што землі абавязкова аддадуць асяродку пінскай шляхты, і яны адыдуць да Беларусі. Здарылася наадварот: усе апынуліся ў складзе Украіны. Дзесьці адразу пасьля вайны пачалася гвалтоўная ўкраінізацыя.

Да вайны ў школе настаўніца казала, што на землях каля Луцка й Ковеля пражывае прыкладна сорак тысяч беларускай шляхты. Фактычна ўсіх за які-небудзь месяц зрабілі ўкраінцамі. Хто не пажадаў быць украінцам, яшчэ доўга адчуваў варожасьць да сябе. Гэта былі сьмелыя крокі. Нашу сям'ю ўтрымлівалі беларускія карані. У бацькоў захаваліся дакумэнты на ўладаньне зямлёй з гэрбам і пячаткай Віленскага зямнога ўпраўленьня. Іх яшчэ ў сямнаццатым стагоддзі атрымаў прапрадзед. Тата казаў, што страціць нацыянальнасьць — значыць страціць гістарычную спадчыну. Гэтага ён не пажадаў рабіць.

Дарэчы, наша сям'я была не адна. Мала-памалу й іншыя вярталі сваю гістарычную памяць. У шасьцідзесятыя аб'ядналіся й напісалі ліст ў цэка кампартыі Украіны, што мы беларусы й жадаем, каб нашы дзеці вывучалі гісторыю й беларускую мову. Адказу прыйшлося чакаць чвэрць стагоддзя. Толькі калі ў дзевяностым годзе ў Львове вуніяты захапілі сьвяты храм, у Кіеве сур'езна падумалі аб праблеме нацыянальных меншасьцяў. Успомнілі, што ёсьць шмат беларусаў. Абяцалі стварыць у школах беларускія клясы, але далей размовы справа не пайшла.

Безумоўна, наш лёс быў бы зусім іншы, каб беларускі ўрад хоць крыху цікавіўся лёсам беларусаў блізкага замежжа. Працы тут багата. Папершае: ніхто й ніколі не лічыў, колькі беларусаў жыве на землях, якія некалі належылі іх продкам.

Я ведаю, што многія з тых, хто па волі Сталіна апынуўся чужым на зямлі продкаў, хацелі б вярнуць права на сваё гістарычнае паходжаньне...

Вось такія думкі не пакідаюць многіх беларусаў украінскага Палесься.

**Г. АСТРОЎСКІ.**

## Бывайце «здаровы»

Палякі заўсёды іранізавалі з тае прычыны, што іхнія цыгарэты маюць у Эўропе першае месца па атрутнасьці. Вось нарэшце дачакаліся гэтай «радасьці» й гарадзенскія курцы. У нашых шапіках паявіліся польскія цыгарэты двух відаў: «Людовэ» — па 130 рублёў і «Сэкс-спорт» па 100—105 рублёў. На пачку апошніх намалявана гэткая напаўголая красуня, што дальбог, нават дагэтуль не курыўшы, амаль абавязкова купіш ды пакаштуеш таго польскага «спартовага сэксу».

**П. ГРЭЦКІ.**

## Канфэрэнцыя ТБМ

24 чэрвеня ў Горадні адбылася гарадзкая канфэрэнцыя Таварыства беларускай мовы. Галоўным пытаньнем на ёй разглядалася — канцэпцыя нацыянальнага унівэрсітэта.

Як вядома, у мінулым месяцы ў «Народнай газеце» група навукоўцаў надрукавала адкрыты ліст рэктару Гарадзенскага унівэрсітэта, у якім выказала занепакоенасьць тым, што рэктарат ня ставіць галоўнай сваёй мэтай дзейнасьці стварэньне нацыянальнага унівэрсітэта і не пачынае яе мэтанавіравана ажыцьцяўляць.

У адказ «ярые националисты» пад час пашыранай навуковай рады унівэрсітэта «атрымалі адпор», бо паводле іх унівэрсітэт ужо таму можна лічыць нацыянальным, што большасьць выкладчыкаў у ім беларусы, а каўбасы ад веданьня беларускай мовы болей не стане. У дадатак для праверкі артыкула была створана камісія з былых супрацоўнікаў абкама, парткамаў, якія злолелі пасьля жніўня 92-га апынуцца ў Альма матэр.

Аднак, нягледзячы на такія вынікі, канфэрэнцыя ТБМ плённа павяла сваю працу. Прафэсар Габрусевіч выклаў перад прысутнымі ў агульных рысах сваю канцэпцыю стварэньня нацыянальнага унівэрсітэта, якая зводзіцца найперш да пераходу на беларускую мову навучаньня і выхаваньня студэнтаў усіх спэцыяльнасьцяў, да арыентацыі зьместу адукацыі гуманітарыяў на духоўную спадчыну беларускага народа, каштоўнасьці нацыянальнага ладу жыцьця. Урэшце, неабходны паварот калектыву унівэрсітэта да вырашэньня рэальных праблем нацыянальнага адраджэньня рэгіёна і края.

Прысутнымі канцэрцыя была ухвалена. Гарадзенскім Таварыствам беларускай мовы быў прыняты зварот да парлямэнта і Міністэрства адукацыі Беларусі ў падтрымку артыкула гарадзенскіх навукоўцаў у «Народнай газеце».

У канфэрэнцыі браў удзел народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Алег Трусаў. У сваім кароткім выступленьні ён зазначыў, што зьмена адукацыі не аднадзённы і аднабаковы працэс, а дзеля таго, каб ажыцьцявіць рэформы, неабходны моцныя нацыянальныя кадры, якіх зараз аднак не стае. Ён дадаў, што галоўную стаўку трэба рабіць на моладзь: асьпірантаў і студэнтаў. Дарэчы, пасьля сустрэчы са студэнтамі Гарадзенскага унівэрсітэта ён прыйшоў да высновы, што апошнія добра разумеюць — павароту назад ня будзе. І яшчэ, яго вельмі ўсьцешыла тое, што ліст сумленных гарадзенскіх навукоўцаў у «Народнай газеце» дазволіць падняць гэтую праблему па ўсёй нашай краіне.

**(ав).**





# ФУТБОЛ. ГАРАСКОП

## Кошкі супраць... гіпэртаніі

Шмат хто адчуваў гэта на асабістым вопыце, ды й вучоныя даказалі: кошкі паляшпаюць стан здароўя. Такі вынік дасьледаваньняў Бонскага інстытута псіхалёгіі. Кошкі быццам разумеюць, калі чалавеку неабходна дапамога. Быццам адчуваюць, што ён хворы, растрывожаны, сумны. Кошка сустракае свайго гаспадара пасьля яго працоўнага дня, трэцца аб яго ногі, лашчыцца. Яна выпраменьвае спакой, разраджае дрэнную атмасфэру ў доме, ставарае цеплыню й утулак. Людзі й кошкі маюць адну агульную рысу: і тым, і другім хочацца, каб іх гладзілі. Гэта тычыцца ня толькі цела, але й душы.

Прафэсар Райнхольд, дырэктар Бонскага інстытута псіхалёгіі сцьвярджае, што наша магчымасьць выявіць свае пачуцьці, неабходныя для здароўя чалавека, абмежавана правіламі паводзін і звычаямі грамадзтва. Да прыкладу, у звычайных абставінах на вас пазіралі б зьдзіўлена, каб вы пачалі гладзіць па галаве суседку або суседа. Іншая справа кошка. Самы сур 'ёзны й паважны мужчына, які ня можа парушыць свой імідж, будзе спакойна гладзіць яе, не баючыся асуджэньня.

Статыстыка сцьвярджае, што чалавек, які мае кошку, знаходзіцца побач з ёй ад 30 да 120 хвілін у дзень, болей, чым з сваімі сябрамі. Прафэсар Бэрглер так тлумачыць уплыў кошкі на чалавека: кошкі выхоўваюць сваіх гаспадароў, хоць яны гэта й не заўважаюць. Людзі робяцца больш спакойнымі, пачынаюць радавацца жыцьцю, бо ў іх ёсьць нехта, да каго можна заўсёды зьвярнуцца. Асабліва гэта патрэбна людзям сталым і адзінокім.

Зараз у Нямеччыне налічваецца болей за 5 мільёнаў кошак, якія маюць гаспадароў. Калі раней яны жылі ў сем 'ях, якія маюць дзяцей, то цяпер кошак ахвотна бяруць таксама й бязьдзетныя й самотнікі.

Псіхолагі вызначылі, што «кашатнікі» й «кашатніцы» ў параўнаньні з людзьмі, якія ня маюць кошак, валодаюць большай фантазыяй, здольны на больш глыбокія пачуцьці.

У мужчын і жанчын, якія ня маюць сям 'і, кошкі болей самастойныя. Кошка не патрабуе вашай пастаяннай увагі. Падчас аднаго апытаньня мужчыны-халасьцякі заявілі, што сяброўка раздражняе іх часта або калі-нікалі. На пытаньне аб кошцы адказалі: «Ніколі». Прафэсар Бэрглер, напрыклад, перакананы, што доўгае сяброўства з кошкай умацоўвае імунную сістэму яе гаспадара й спрыяе яго здароўю й даўгалецьцю.

Вопыты амэрыканскага прафэсара Бастэда сьведчаць: дотык да кошкі зьніжае ціск у гіпэртонікаў. А група экспэртаў ЗША, якая праводзіла дасьледаваньні па заказу міністэрства аховы здароўя, уключыла кошку ў сьпіс «сродкаў супраць стрэсавых сітуацый». Кошка можа папярэдзіць інфаркт.

Якая ж кошка патрэбна менавіта вам? Яны таксама розныя па характары... Кошкі з доўгай поўсьцю лічацца больш спакойнымі, чым гладкія. Заводныя кошкі вельмі дарагія, але зусім не патрэбна імкнуцца набыць такую. Да прыкладу, у Нямеччыне заводныя кошкі складаюць усяго 6% ад іх агульнай колькасьці.

Зрэшты, кожная кошка адпавядае кожнаму чалавеку. Для маленькіх дзяцей лепей за ўсё звычайная хатняя кошка — яна трывушчая, незапатрабавальная, мае моцныя нэрвы. Дрэнныя адносіны з боку дзіцяці яна таксама стрывае.

Самотныя людзі могуць дазволіць сабе больш прывярэдных, напрыклад, сіямскую кошку. З ёю трэба шмат змагацца, часьцей размаўляць. Калі ў доме ўжо ёсьць сабака, прыпыніце выбар на пэрсідзкай кошцы — яна адна з самых спакойных.

**По матэрыялах замежнага друку падрыхтаваў**

**А. КАНДРАШОЎ.**

## Віват, футбол, віват!

Як потым прызналіся менскія спартыўныя журналісты, сталіца Беларусі даўно ня бачыла такога футбольнага фэста.

За дзьве гадзіны да матча каля 300 юных гарадзенскіх фанаў сышлі з «футбольнага» цягніка й з сьцягамі й імправізаваным аркэстрам рушылі да стадыёна «Дынама», раз-пораз скалыхваючы гучнымі выкрыкамі навакольле. «Нёман — гэта сіла», «Нёман — гэта клас», «Нёман — чэмпіён». Адным словам, куды ні кінь — усюды лашчыў слых знаёмы рэпэртуар былога «Чырвонага сьцяга».

У адрозьненьне ад цягніковых фанаў, наша група футбольных аматараў прыехала ў сталіцу на аўтобусах. Сярод пасажыраў былі кіраўнікі горада, спартыўныя функцыянэры, фундатары, журналісты, прыхільнікі футбольнага клюба «Нёман» і міліцыянты. Так-так, не зьдзіўляйцеся, у кожным аўтобусе па міліцыянту, а наперадзе — машына ДАІ. Дарэчы, цягнік суправаджала 11 супрацоўнікаў міліцыі.

Акрамя нашага арганізаванага «дэсанту» ля «Дынама» было нямала транспарту з роднымі нумарамі ГК, бо, як вядома, амаль усе аўтамаёмасныя прадпрыемствы Горадні паслалі сваіх прадстаўнікоў на кубкавую гульню «Нёман» — «Ведрыч».

**(Працяг на 8-й стар.).**



У Гарадзенскім Лялечным тэатры 27-га чэрвеня адбылася прэм 'ера опэры «Кузуркіяна». Лібрэта напісала С. Клімковіч, музыку — П. Кандрусевіч. У опэры апавядаецца пра гісторыю каханьня матылька Шэрыя крыльцы, партыю якога выканаў Віктар Шалкевіч, да Заранкі ў выкананьні Марыны Лазаравай.

**На здымку: выканаўцы опэры «Кузуркіяна».**

**Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.**

## Зоркі аб здароўі й каханьні (5—11 ліпеня)

**АВЭН.** 7-га — самы спрыяльны дзень для знаёмстваў і сустрэчаў, а таксама кантактаў з сябрамі й сяброўкамі. Настрой ня вельмі добры, але зьменіцца да канца тыдня. Займайцеся фізічнымі практыкаваньнямі: бег, гімнастыка 8-га й 9-га. 11-га застанцеся ў хаце й займіцеся гаспадаркай.

**ЦЯЛЕЦ** пазнаёміцца з дзяўчынай, якая западзе ў душу. Тыдзень ня вельмі спрыяльны: не хапае грошай, мноства іншых праблемаў. 8-га й 9-га засьцерагайцеся, бо могуць падмануць і нават абкрасьці. Лепш адмоўцеся ад паездак 9-га й 19-га. Займіцеся бегам, часьцей шпацыруйце на сьвежым паветры.

Большасьць **БЛІЗЬНЯТАЎ** атрымаюць грошы, якія некалі ўклалі ў справу. 6-га й 7-га энэргія й націск дапамогуць дамагчыся посьпехаў. Трэба абнавіць свой зьнешні выгляд: зрабіце прычоску альбо стрыжку. 7-га й 8-га нэрвовыя дні — старайцеся менш рэагаваць на крытыку, займіцеся звычайнымі справамі.

Асьцярожнасьць дапаможа **РАКУ** пазьбегнуць непрыемнасьцей. Удалы час для падарожжаў і адпачынку. Ад паненак і дзяўчынак выходзяць добрыя пачуцьці, гэта прыцягвае хлопцаў і мужчынаў. Падарожжа адкладзіце на 8-га ці 9-га. Дыета: яйкі, рыба, цыбуля, дзічына.

А **ІЛЬВУ** актыўнасьць дапаможа дабіцца посьпеху. 9-га любоўная прыгода прымусіць пахваляцца. Камандзіроўка або падарожжа не ўваходзіць у вашы планы, аднак раптам адправіцеся ў дарогу. Справы добра пойдуць 8-га: можаце планаваць важныя дзеяньні. Засьцерагайцеся траўм і аварыяў.

**ПАННА** зможа завесьці неабходныя знаёмствы. Праца ёсьць праца: могуць быць памылкі й непрыемнасьці. Марс дасьць энэргію й жаданьне працаваць на поўную моц. Дыета: поснае мяса, гуркі, памідоры й цыбуля. Вяртайцеся дамоў да прыцемак, асабліва 8-га й 9-га. 11-га — дзень удалы для закупаў.

Галоўны накірунак у дзеяньнях **ШАЛЯЎ** — праца й скарбовы паклад. Вэнэра зробіць вас сімпатычнай. Адчуеце ўзаемнасьць сваіх пачуцьцяў, узьлёт фантазый і ідэй, прагу да творчасьці. Прафілактыка захворваньняў пойдзе на карысьць 10-га й 11-га ліпеня. Лячыце ныркі й паясьніцу, захворваньні страўніка. У нядзелю вас наведае стары сябра.

**СКАРПІЁНУ** трэба быць абачлівым у выбары сяброў. Хвалі каханьня вынясуць на жаданы бераг. Актыўныя дзеяньні лепей, чым лянота й пакой, асабліва 6-га й 7-га. Фінансавае становішча палепшыцца: атрымаеце нечаканыя грошы. Не зьвяртайце ўвагу на плёткі. 8-га й 9-га засьцерагайцеся ад п 'яных і злодзеяў.

**ЛУЧНІКУ** лепей ня ехаць у дарогу: магчыма, захварэе нехта са сваякоў альбо сяброў. 5-га пісьмовыя зьвесткі ці тэлефонны званок узьдымуць настрой. 7-га будзьце ўважлівымі на працы: магчымы памылкі й недахопы. 9-га й 10-га не ўжывайце алкаголю.

**КАЗЯРОГУ** неабходна прыняць важныя рашэньні: зрабіце гэта ў другой палове тыдня. Недахоп грошай прымусіць ухапіцца за прапанову, якую вам хутка зробяць. 7-га й 8-га будуць нэрвовыя абставіны: нехта сваімі дзеяньнямі зможа зьмяніць вашы пляны. Зьвярніце ўвагу на страўнік і скуру.

Трата сіл і энэргіі чакае **ВОДНІКА.** 7-га будуць удачнымі ўсе вашы добрыя справы й пачынаньні. Сустрэчы з сябрамі ці сяброўкамі будуць вельмі прыемныя й прынясуць радасьць і шчасьце. Не піце гарэлкі й лекаў 7-га. Добрыя зьвесткі ў канцы тыдня — бальзам для душы.

**РЫБЫ** клапоцяцца аб сям 'і й гаспадарцы. Напружанасьць у каханьні можа зьмяніць настрой. 6-га й 7-га займайцеся простай працай. Нехта паспрабуе зьбіць вас з панталыку — будзьце ўважлівымі. Дыета: морква, салата, радыска й каша.

**Падрыхтаваў А. КАНДРАШОЎ.**

## Школьнікі просяць не сьпяшацца

**Ад рэдакцыі. Днямі да нас завітала дзяўчынка гадоў дванаццаці з просьбай надрукаваць калектыўны ліст. Як высьветлілася, ліст гэты не патрабуе аніякіх камэнтарыяў, бо ўсё ў ім гаворыць само за сябе.**

**Друкуем яго без скарачэньняў і спадзяемся, што да голасу дзяцей і дарослых прыслухаюцца.**

Шаноўны Сямён Мікалаевіч Домаш!

Шаноўныя дэпутаты нашага горада!

Да вас зьвяртаюцца навучэнцы школаў, дзеці й дарослыя горада Горадні з просьбай прыпыніць выкананьне вашага рашэньня ад 27 траўня 1993 года. «Аб правілах утрыманьня сабак, кошак і іншых драпежных жывёл, у якім гаворыцца аб зьнішчэньні бяздомных кошак і сабакаў.

Мы разумеем, што ў горадзе неабходна мець і «правілы» па ўтрыманьню жывёлы, і ня толькі сабак і кошак. Але ж гэтыя правілы павінны зыходзіць да любові да ўсяго жывога, ад міласэрнасьці дужага ў адносінах да слабога. Зьнішчыць бяздомную жывёлу, і ня толькі бяздомную, але й тую, што згубіла сваіх гаспадароў, амаральна й жорстка. Бяздомны чалавек, калі захоча, можа забясьпечыць сабе існаваньне сваёй працай, а жывёла — ніколі, калі ёй не дапаможа чалавек. Гэта разумеюць усе вялікія й простыя людзі ва ўсіх цывілізаваных краінах.

У нашым горадзе замест дапамогі нашым малодшым сябрам вы ствараеце цэлыя брыгады «забойцаў», якіх гэтаму вучаць. На жаль, ёсьць сярод дарослых і дзяцей скуралупы, для якіх пакуты слабых прыносяць асалоду. А гэта надалей прыводзіць і да насільля над чалавекам.

Мы заклікаем вас, шаноўныя кіраўнікі горада, замест тэрора над безабароннай жывёлай аб 'явіць у горадзе «Год абароны жывёлы», стварыць прытулак для бяздомных кошак, сабак, хворых птушак. Усе дзеці дапамогуць у такой справе сваёй непасрэднай працай.

Трэба сказаць дзякуй тым, хто не мінуў галодную, брудную сабаку, прытуліў і накарміў яго, а ня браць з гэтых людзей штомесячныя падаткі за ацяпленьне й газ. Звычайна міласэрныя людзі не бываюць багатымі. Дык ці трэба іх рабіць яшчэ бяднейшымі?

Мы спадзяемся на вашу гуманнасьць і дабрыню.

**Алена БАРАНАВА,**

**Ірына ПАРХУТА,**

**усяго 23 подпісы.**

